

# Беларус

> БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!
>
> *Максім Багдановіч (1891-1991)*

№ 382 Верасень 1991
Год выд. XL

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!



**1991 год. 25 жніўня. 20 г. 08 мін.**

## БЕЛАРУСЬ НЕЗАЛЕЖНАЯ!

19-21 жніўня ў Маскве была зробленая спроба захопу ўлады групай загаворшчыкаў.

У Менску водгук на пераварот, як можна было й спадзявацца, быў дваякі: партыя й адданы партыі апарат пераварот падтрымалі, ці то актыўна, ці то пасыўна, нічога ня робячы; аднак шырокія колы грамадзтва ды значная частка кіраўніцтва рэспублікі гэты супрацьзаконны акт асудзілі.

Беларускі Народны Фронт, як найбольш дзейная апазыцыйная група Вярхоўнага Савету БССР, адным зь першых выступіў супроць *путчу* ды ўзяў ініцыятыву арганізаваньня шырокага пратэсту супроць перавароту.

У выніку інтэнсыўнае палітычнае дзейнасьці як дэпутатаў Фракцыі Беларускага Народнага Фронту, гэтак і іншых заканадаўцаў — **25 жніўня 1991 году Беларуская рэспубліка абвесьціла незалежнасьць.**

Ніжэй падаем рэпартаж жнівеньскіх падзеяў у Менску.

## МІНСК — ІЗНОЎ МЕНСК

5-га верасьня 1991 году Менскі Гарадзкі Савет адпаведнай пастановай зьмяніў зрусыфікаваны назоў гораду Мінск, які быў уведзены ў афіцыйны ўжытак у 1939 годзе, на беларускі тэрмін **МЕНСК.**

У гэты-ж дзень беларускі бел-чырвона-белы сьцяг быў упяршыню вывешаны над будынкам Гарадзкога Савету.

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ — ДЭКЛЯРАЦЫЯ АЛЬБО РЭАЛЬНАСЬЦЬ

### АНАЛІЗ ВЫНІКАЎ ПЯТАЙ НАДЗВЫЧАНАЙ СЭСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ БЕЛАРУСКАЙ ССР ХІІ-ГА СКЛІКАНЬНЯ

#### ПРЫЧЫНЫ СКЛІКАНЬНЯ НАДЗВЫЧАЙНАЙ СЭСІІ

19-21 жніўня ў Маскве рэакцыйнымі коламі была зробленая спроба дзяржаўнага перавароту. Кіраваў пераваротам, тады-ж створаны, гэтак званы дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму стану, ДКНС. У склад гэтага камітэту ўвайшлі: віцэ-прэзыдэнт СССР Г. Янаў, старшыня КДБ СССР В. Кручкоў, прем'ер-міністр СССР В. Паўлаў, міністр унутраных спраў СССР Б. Пуго, міністр абароны СССР Д. Язаў, старшыня Сялянскага Саюзу СССР В. Старадубцаў, першы намесьнік старшыні Савету Абароны СССР О. Бакланаў, прэзыдэнт Асацыяцыі Дзяржаўных Прадпрыёмстваў і Аб'ектаў Прамысловасьці, Будаўніцтва, Транспарту й Сувязі СССР А. Цізякоў. Ужо сам склад ДКНС даводзіць аб тым, што на чале перавароту сталі прадстаўнікі ваенна-прамысловага камплексу й ЦК КПСС.

Але дзякуючы рашучым дзяньням кіраўніцтва РСФСР ды моцнай падтрымцы міжнароднай супольнасьці, пераварот быў падаўлены ўжо на трэйці дзень. На вялікі жаль, кіраўніцтва Беларускай ССР, а менавіта Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР на чале з старшынём М. Дзямянцеем ды Савет Міністраў БССР не выказалі сваёй рашучай пазыцыі з асуджэньнем антыдзяржаўнага перавароту. Заміж рашучых крокаў каб перадухіліць дзеяньні загаворшчыкаў на Беларусі, пракамуністычнае кіраўніцтва рэспублікі вырашыла моўчкі адседжвацца й вычэквацць.

У такі складаны для рэспублікі момант апазыцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце БССР узяла на сябе ініцыятыву зь першых-жа гадзінаў путчу арганізаваньня пратэсту супраць дзеяньняў загаворшчыкаў. Апазыцыя БНФ адразу запатрабавала скліканьня Надзвычайнай Сэсіі Вярхоўнага Савету БССР каб ацаніць палітычную сытуацыю ды прыняць неабходныя меры для абароны сувэрэнітэту і канстутыцыйнага ладу Беларускай ССР. Бязьдзейнае-ж захаваньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР тлумачыцца тым, што большасьць у Прэзыдыюме складаюць члены ЦК КПБ, дык Прэзыдыюм і кіра-





Яго Міласьці Зянону Пазьняку,
Вярхоўны Савет БССР,
Дом Ураду, Менск

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне шчыра віншуе Вярхоўны Савет Беларусі і увесь Беларускі Народ з абвешчаньнем Незалежнасьці Беларусі.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне выказвае гэтым сваю гатоўнасьць дапамагаць усімі сіламі справе замацаваньня дэмакратычных свабодаў на Беларусі ды пашырэньня супрацоўніцтва ЗША і Беларускай Рэспублікі.

**Жыве Беларусь!**

26 жніўня, 1991 г. — Антон Шукелойць, старшыня
Нью Ёрк — Вера Запруднік, сакратар



Зянону Пазьняку,
Дом Ураду,
Менск, Беларусь

Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі вітае Вас і ўвесь Беларускі Народ з абвешчаньнем Незалежнасьці Беларусі.

**Жыве Беларусь**

Нью Ёрк, 26 жніўня 1991 г. — Юрка Кіпель, старшыня



Беларускаму Народнаму Фронту «Адраджэньне».
Шаноўнаму Спадару Зянону Пазьняку,
Старшыні Сойму БНФ,
Менск,
Беларусь.

Шаноўны Спадару!

Згуртаваньне Беларусаў Канады вітае Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» з нагоды аб'яўленьня незалежнасьці Беларускай Рэспублікі.

Мы з радасьцяй і гонарам за свой народ сачылі, як нарэшце пачалі зьдзейсьнівацца запаветныя ідэалы 25-га Сакавіка. Ідэалы гэныя каштавалі нашаму народу шматлікіх ахвяр, нявымоўных цяжкасьцяў і мукаў. Шматлікія цяжкасьці і доўгая барацьба яшчэ ляжаць наперадзе.

Мы верам аднак, што дэмакратычныя сілы нацыі ў змаганьні за волю і сьветлую будучыню выдуць пераможцамі і Беларусы нарэшце стануць гаспадарамі на сваёй зямлі.

**Жыве Беларусь!**

1-га верасьня 1991 г. — Мікола Ганько — старшыня
Торонто — Валер'ян Навіцкі — сакратар



# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

ваўся указаньнямі гэтага, сумна ведамага, органу, які фактычна, у сваёй заяве падтрымаў пераварот.

Тым-жа часам падзеі разгортваліся надзвычай хутка. Дэмакратычныя сілы перамаглі. І вось пад націскам апазыцыі, ды калі было сабрана панад 100 подпісаў дэпутатаў, а пераварот быў падаўлены, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР прыняў пастанову 24 жніўня склікаць нечарговую сэсію Вярхоўнага Савету БССР.

Апазыцыя прапанавала ўлучыць у дзённы парадак нечарговае сэсіі Вярхоўнага Савету БССР наступныя пункты:

1. Аб дзеяньнях Старшыні Вярхоўнага Савету БССР у часе спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР;
2. Аб паводзінах членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР і службовых асобаў адміністрацыйнага апарату рэспублікі ў часе спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР;
3. Аб дзеяньнях грамадзка-палітычных арганізацыяў у часе спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР;
4. Аб наданьні канстутыцыйнага статусу Дэкларацыі аб Дзяржаўным Сувэрэнітэце БССР;
5. Аб зьменах у артыкуле 72-м Канстытуцыі БССР;
6. Аб Саюзным Дагаворы;
7. Аб асноўных пунктах парадку дня шостай сэсіі Вярхоўнага Савету БССР;
8. Аб скарачэньні колькасьці савецкага войска на тэрыторыі БССР і пераводзе структураў КДБ у юрысдыкцыю рэспублікі.

Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР прапанаваў свой парадак дня, які ўлучаў толькі два расплыўчатыя пункты:

1. Аб бягучым мамэнце;
2. Аб Саюзным Дагаворы.

У часе адчыненьня пятае нечарговае сэсіі Вярхоўнага Савету БССР, навакол парадку дня разгарнуліся войстрыя спрэчкі паміж кансэрватыўнай камуністычнай бальшынёй і дэмакратычнай апазыцыяй. Бязумоўна, што бальшыня не хацела разгляду на сэсіі ролі партыйных функцыянэраў у перавароце. Але ў выніку прынцыповай пазыцыі дэмакратычнай меншасьці ды дзякуючы псыхалягічнай падтрымцы мянчанаў, якія арганізавалі у час сэсіі бясспынны мітынг асуджэньня путчыстаў, Вярхоўны Савет БССР прыйшоў да кампрамісу. Прапановы апазыцыі былі часткава ўлучаныя ў дзённы парадак сэсіі. У сфармуляваньні парадку дня адыграла сваю ролю й паймennae галасаваньне аднасна парадку дня. Адказнасьць перад выбаршчыкамі ў многіх дэпутатаў пераважыла над партыйнымі амбіцыямі.

## ПРЫНЯЦЬЦЁ ГІСТАРЫЧНЫХ ПАСТАНОВАЎ

Пасьля зацьверджаньня парадку дня сэсіі, старшыня Вярхоўнага Савету БССР М. Дземянцей выступіў з дакладам аб бягучым мамэнце. Ягонае выступленьне было ў такім тоне ды як бы сьведчыла, што ў краіне нічога важнага не адбылося. Гэтаксама старшыня ані слоўцам не абмовіўся аб магчымых пасьледствах у выпадку перамогі загаворшчыкаў. У той-жа час усім вядома, што былі ўжо падрыхтаванныя і сьпісы для арыштаў ды была ўжо замоўленая і прадукцыя наручнікаў. У прамове М. Дземянцей казаў, што ён паступаў зусім правідлова, заклікаўшы людзей да супакою у часе калі адбываўся пераварот. Паводле яго, Беларусь павінна была-б у тым часе яшчэ ляпей працаваць а ДКНС зробіць рэвалюцыйны парадак. Аднак большасьць дэпутатаў зусім інакш ацанілі пазыцыю старшыні Дземянцея ды падтрымаўшых яго членаў Прэзыдыюма. Дэпутаты востра пачалі крытыкаваць кіраўніцтва рэспублікі за згоднiцкую з загаворшчыкамі пазыцыю ды патрабавалі адстаўкі і прыцягненьня да адказнасьці высокапастаўленых асобаў кіраўніцтва, а ў першую чаргу М. Дземянцея. Быў час у ходзе сэсіі, калі здавалася, што камуністычная большасьць у Вярхоўным Савеце так і не дасьць крытычнай ацэнкі кіраўніцтву рэспублікі. Але на другі дзень сэсіі наступіў пераломны мамэнт, пасьля таго як дайшла вестка, што Прэзыдэнт СССР і ён жа Гэнэральны Сакратар ЦК КПСС выдаў указ аб спыненьні дзейнасьці КПСС у сувязі з відавочнымі доказамі аб удзеле партыйных камітэтаў усіх узроўняў у загаворы. У дадатак, Украіна 24 жніўня абвесьціла сваю незалежнасьць. У гэты мамэнт стала ясна, што патрэбныя былі рашучыя дзеяньні, каб абараніць гонар і інтарэсы рэспублікі.

Разьвязка прыйшла хутка. М. Дземянцей пайшоў у адстаўку. І пятая нечарговая сэсія Вярхоўнага Савету БССР пачала прыймаць цэлы пакет радыкальных законаў і пастановаў, якія датычаць вызначэньня палітычнага курсу дзеяньняў на шляху дасягненьня незалежнасьці Беларусі ды ўсталяваньня ў ёй дэмакратычнага ладу. Вось тэтыя пастановы й законы.

*Закон БССР.* **«Аб наданьні статусу канстытуцыйнага закону Дэкларацыі Вярхоўнага Савету БССР аб Дзяржаўным Сувэрэнітэце БССР».**

Дэкларацыя Вярхоўнага Савету БССР абвесьціла 27 ліпеня 1990 году Беларусь незалежнай дзяржавай ды задакумэнтавала асноўныя прынцыпы ейнага існаваньня. Але дагэтуль абвешчаная Дэкларацыя засталася звычайнай пустой паперкай. Цяпер гэты дакумэнт набыў статус канстытуцыйнага акту і ёсьць асновай для распрацаваньня новай канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

*Закон БССР.* **«Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) БССР у разьдзел 7-ы «Беларуская ССР — саюзная рэспубліка ў складзе СССР» і разьдзел 19-ы «Пракуратура».**

*Артыкул 72.* На тэрыторыі Беларускай ССР устаноўліваецца зьверхніцтва Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР. Законадаўства Саюзу ССР дзейнае на тэрыторыі БССР, калі яно не супярэчыць заканадаўству Беларускай ССР.

*Артыкул 73.* Тэрыторыя Беларускай ССР зьяўляецца непадзельнай і недатыкальнай і ня можа быць зьмененай або выкарыстаная бяз згоды Беларускай ССР. Усе пытаньні аб межах Беларускай ССР вырашаюцца на аснове ўзаемнай згоды паміж Беларускай ССР і сумежнымі дзяржавамі шляхам заключэньня адпаведных дагавараў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

*Разьдзел 19-ы Канстытуцыі БССР* цяпер абвяшчае зьверхніцтва Пракуратуры Беларускай ССР на тэрыторыі рэспублікі.

*Закон БССР* **«Аб некаторых зьменах у сыстэме органаў дзяржаўнага кіраваньня Беларускай ССР»** — пераўтварае саюзна-рэспубліканскае Міністэрства Унутраных Справаў Беларускай ССР у Рэспубліканскае Міністэрства Унутраных Справаў Беларускай ССР і саюзна-рэспубліканскі Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі Беларускай ССР у Рэспубліканскі Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі Беларускай ССР. Гэтыя зьмены — рэальныя крокі для стварэньня адпаведных структураў, характэрных для сувэрэннай дзяржавы.




*Пастанова Вярхоўнага Савету БССР* **«Аб часовым прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларускай ССР»** фактычна паклала канец таталітарнай камуністычнай сыстэме ўлады і адчыніла дарогу для ўстанаўленьня дэмакратычнага ладу ў рэспубліцы.

*Пастанова Вярхоўнага Савету БССР* **«Аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня БССР, дзяржаўных прадпрыемстваў, установаў, арганізацыяў і ўласнасьці КПБ і ЛКСМБ»** пазбавіла кампартыю непасрэднага ўплыву на дзяржаўныя структуры.

*Пастанова Вярхоўнага Савету БССР* **«Аб забясьпечаньні палітычнай і эканамічнай самастойнасьці Беларускай ССР»** абвесьціла незалежнасьць Беларусі.

## РЭАЛІЗАЦЫЯ ГІСТАРЫЧНЫХ ПАСТАНОВАЎ

Любыя пастановы й законы застаюцца пустой паперкай, калі іх не напоўніць рэальным зьместам. Для рэалізацыі заканадаўчых актаў неабходна мець дакладную працэдуру і дасканалую сыстэму выканаўчай улады. Нажаль, на Беларусі і працэдура недасканалая, а выканаўчая ўлада пракамуністычная. Цяпер былыя партыйныя функцыянэры перасядаюць у крэслы выканаўчай улады і стрымоўваюць дэмакратычныя працэсы, спадзяючыся на зварот таталітарнага камуністычнага рэжыму.

Тым ня менш, незалежнасьць Беларусі абвешчаная, увесь сьвет аб гэтым паінфарамаваны, і незалежнасьць трэба напаўняць рэальным зьместам. Беларусь, як незалежная дзяржава, павінна цяпер стварыць усе адпаведныя інстытуцыі сувэрэннай дзяржавы. Гэта ў першую чаргу датычыць арміі, органаў бясьпекі, мытнай службы, нацыянальнай валюты і іншых дзяржаўных адзнакаў. Неабходна адразу-ж накіраваць дыпляматычныя місіі, найперш у суседнія зь Беларусьсю дзяржавы, для ўзгадненьня пытаньняў аб добрасуседскіх дачыненьнях ды адчыненьні ў дзяржавах сталых прадстаўніцтваў, а ў пэрспэктыве і пасольстваў.

Беларусь, як член Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, павінна зьвярнуцца да міжнароднай супольнасьці аб прызнаньні дэ-юрэ дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ды ўвайсьці ў беспасярэднія міжнародныя кантакты. У гэтай дзялянцы прадбачыцца, бясспрэчна, кадравая праблема, бо міжнароднай дзейнасьцю рэспублікі ў структуры СССР кіравалі й займаліся маскоўскія кадры.

Эканамічныя й гаспадарчыя сувязі павінны быць прааналізаваныя з глядзішча аптымальных паказьнікаў і рацыяналізацыі. Гэткі падыход дазволіць беларускім прадпрыймальнікам інтэгравацца ў сьветавую эканоміку.

Менск,
31 жніўня 1991 году.

**Уладзімір Новік,**
**народны дэпутат Беларускай ССР**

## БЕЛАРУСЬ У ДРУКУ, РАДЫЁ Й ТЭЛЕБАЧАНЬНІ

Падзеі на Беларусі, асабліва абвешчаньне незалежнасьці, прыцягнула ўвагу амэрыканскага друку, радыё й тэлебачаньня.

Вялікія артыкулы пра Беларусь ды сёньняшні палітычны стан у рэспубліцы былі выдрукаваныя як у большых амэрыканскіх газэтах; Нью-Ёрк Таймз, Балтымор Сан, Плэйн Дылер і інш., гэтак і ў мясцовым друку.

У некаторых мясцовых газэтах з нашымі суродзічамі былі зробленыя абшырныя інтэрв'ю ды насьветленыя беларускія палітычныя пагляды. Гэтак інтэрв'ю амэрыканскаму друку давалі: спадарыня Лідзія Божка ў Пасэйку, Міхась Бахар і Леанід Літаровіч у Саўт Рыэры, Зора й Вітаўт Кіпель у Ратэрфордзе, Юрка і Лёрэйн Кіпель у Думонце — горады штату Нью Джэрзі. Вітаўт і Зора Кіпель удзельнічалі ў тэлепраграме «Навіны Дня» на адзінаццатым канале НьюЁрку — Нью Джэрзі. Вельмі ўдалым было таксама пытаньне, ды насьвятленьне беларускага пагляду на праблему Вільні, спадара Аўгена Дубовіка з штату Канэктікут, у Вашынгтонскай праграме тэлебачаньня Л-Спан-2, якая, дарэчы, трансьлюецца па ўсёй краіне.

**BYELORUSSIA SAYS BYE**

Lawmakers in the Byelorussian republic voted unanimously Sunday (Aug. 25. 1991) to declare full independence...

*Herald & News Aug. 26*

**SOVIET UNION FALLING TO PIECES**

The parliament in Byelorussia, previously among the most loyal of republics, voted yesterday for independence...

*The Daily Telegraph Aug. 26*

**SPLINTER...**

... concern grew yesterday with news that the parliament in Byelorussia, the third Slavic republic, had approved an independence.

*The Plain Dealer Aug. 26*

## КУРАПАТЫ НЕКАМУ ДАНІМАЮЦЬ

Агентцва ТАСС паведаміла 2-га жнівеня, што нядаўна створаная камісія па расьсьледваньню злачынстваў у Курапатах прышла да высновы, што растрэлы ў Курапатах адбыліся ў 1941 годзе, калі Менск быў акупаваны нямецкім войскам. Пры гэтым, старшыня камісіі Міхаіл Бязрукаў, выказаў пагляд, што расстраляныя ў Курапатах былі не беларусы, а гэбрэі, якіх немцы прывезьлі з Гамбургу і з Польшчы.

Як выглядае, некаму яшчэ абходзіць, каб абяліць сталінскія злачынствы, насуперач дакумэнтам дзяржаўнай камісіі, якая праводзіла раскопкі ў Курапатах у 1988 годзе, і фактам, у якіх новая камісія зусім заблыталася. А фактам ёсьць, што немцы пачалі прывозіць у Менск гамбургскіх гэбрэяў толькі напрыканцы 1942 году.

## ПРЫШЧЭПАЎШЧЫНА — АКТУАЛЬНАЯ СЁНЬНЯ

Апошнім часам беларускі савецкі друк пачынае рэгабілітаваць асобаў, якія паўвеку перад тым ня толькі ня згадваліся ў афіцыйным друку, але савецкая ўлада наагул намагалася выкрэсьліць іх з аналаў дзяржаўнае дзейнасьці рэспублікі. Ды гэткіх асобаў належаў у БССР, былы народны камісар земляробства Савецкай Беларусі — Зьмітра Прышчэпаў. У цяперашнім часе артыкулы аб Прышчэпаву пачынаюць зьяўляцца на балонках менскіх газэтаў, аднак ня пішацца аб тым, што Зьмітра Прышчэпаў зрабіў для Беларусі. Тым-жа часам, ягоную дзейнасьць неабходна было-б папулярызаваць, пагатоў, што з гэтае дзейнасьці Савецкая Беларусь магла-б скарыстаць і цяпер. Вось-жа Зьмітра Прышчэпаў — народны камісар земляробства БССР у двадцатых гадох — заініцыяваў і ужыцьцявіў рэформу сельскае гаспадаркі рэспублікі, якая ўвайшла ў народны лексікон ды сельскагаспадарскую літаратуру як **прышчэпаўшчына.**

Але, перад тлумачэньнем гэтае рэформы, варта прыпомніць аб стане сельскае гаспадаркі БССР па першай сусьветнай вайне. Па грамадзянскай вайне ды розных акупацыях Беларусі сельская гаспадарка краіны апынулася ў вельмі запушчаным стане. Зьменшыліся пасеўныя плошчы, вельмі пагоршала апрацаваньне палёў, нетавала ні коняй ні машынаў, а агульная прадукцыя сельскае гаспадаркі рэспублікі ў 1920-м годзе была меней паловы прадукцыі 1913 году (раўнуецца адпаведная тэрыторыя). Ды хоць на Беларусі ў тых часох ня было голаду як у іншых раёнах савецкае дзяржавы, кіраўніцтву БССР было відавочна што голад можа пачацца, калі не направіць сельскую гаспадарку. На народнага камісара сельскае гаспадаркі БССР быў прызначаны Зьмітра Прышчэпаў, ведамы тады добры адміністратар і знавец сельскае гаспадаркі рэспублікі.

У 1924 годзе Зьмітра Прышчэпаў, са згодай ураду БССР пачаў ужыцяўляць рэформу сельскае гаспадаркі рэспублікі. Асноўная мэта рэформы была ўзьняць прадукцыйнасьць гаспадаркі ды забясьпечыць бесьперабойнасьць пастачаньня сельскагаспадарчае прадукцыі жыхарству рэспублікі ды на рынак наагул. (Гэткія-ж праблемы сельскае гаспадаркі БССР, якія ёсьць вельмі актуальнымі і ў цяперашні час). Трэба падкрэсьліць. што перад тым як пачаць рэформу ў Беларусі, Зьмітра Прышчэпаў ды колькі іншых спэцыялістаў сельскае гаспадаркі рэспублікі азнаёміліся із станам сельскае гаспадаркі ў Нямеччыне і ў Даніі, у краінах з найвышэйшай прадукцыйнасьцяй гаспадаркі з гэктару зямлі. Асноўныя аспэкты перабудовы сельскае гаспадаркі паводля Зьмітра Прышчэпава былі гэткія: прыдзяліць безьзямельным сялянам надзелы зямлі, зьбольшыць надзелы малазямельным гаспадаром, скасаваць поўнасьцю, панаваўшую тады, вузкапалосіцу ды расьсяліць буйныя вёскі на меншыя пасёлкі і хутары. Для правядзеньня гэтае рэформы былі падрыхтаваныя кадры аграномаў, каморнікаў, плянавікоў. Былі арганізаваныя па цэлай Беларусі курсы для сялянаў, каб вытлумачыць асновы новае рэформы. Апрача ўласьніцкага землеўпарадкаваньня, Народны Камісарыят Земляробства БССР увёў новыя меры для інтэнсыфікацыі тэхналёгіі сельскае гаспадаркі. Пачалася, пры дапамозе дзяржавы, шырокая праграма арганізацыі сельскагаспадарскіх каапэрацыяў. Вялікі націск рабіўся і на спэцыялізацыю сельскае гаспадаркі — фаварызавалася малочная гаспадарка, гадаваньне льну, бульбы і інш. Выдаваліся вялікія фінансавыя дапамогі сялянам ды каапэратывам. Пачаліся будовы прамысловых прадпрыёмстваў для перапрацоўкі сельскагаспадарскае сыравіны. Собсьнікамі як гаспадарак, гэтак і прадпрыёмстваў былі сяляне.

Вынікі рэформы сталі відавочнымі праз год-другі. Ужо ў 1927 годзе сельскагаспадарская прадукцыя БССР перакрочыла даваенны ўзровень больш як на 15 працэнтаў. Пабольшалі пасеўныя плошчы, БССР пачала дзваць шмат сельскагаспадарскае прадукцыі на экспарт, бязьмерна узрасьлі дапамаговыя сельскагаспадарскія галіны як садаўніцтва, гародніцтва, пчалярства. А за пяць гадоў — ад 1924 да 1929 году праграма **прышчэпаўшчыны** зрабіла на Беларусі тое, што рэспубліка магла даваць прадукцыю на экспарт.

Відавочна, што сельская гаспадарка БССР, дзякуючы рэформе Прышчэпава, зрабіла надзвычай вялікі ўклад ва ўсю эканоміку рэспублікі. Аднак здароваму эканамічнаму развою Беларусі ня было суджана прадаўжацца. Прышчэпаў быў арыштаваны й зьнішчаны, ягоныя рэформы спыненыя, а раскулачаньне давяло краіну да жабрацтва.

І вось, чытаючы ў савецкай прэсе сёньняшнія разважаньні аб рэформах, аб нястачы прадуктаў, аб праблемах сельскай гаспадаркі, дзівімся, што й да цяперашняга часу камуністычны адміністрацыйны апарат рэспублікі, ня хоча зазірнуць у недалёкае мінулае, прыпомніць **прышчэпаўшчыну,** ды раздаць беларускім сялянам зямлю, а яны ў сваю чаргу дапамогуць вывесьці рэспубліку з сельскагаспадарскага крызісу.

**В. К.**

## ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ Ў ВАКОЛІЦАХ ТАРОНТА

Паміж 27-ым ліпеня й 25-ым жніўнем г.г. у Таронта й ваколіцах адпачывала група дзесяці дзяцей з настаўніцай з Чарнобыльскай зоны. Дзяцей прывёз і апякаваўся Канадыйскі Дабрачынны Фонд Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі ў супрацоўніцтве з Дабрачынным Фондам «Дзецям Чарнобыля» БНФ. Дзяцей і настаўніцу прынялі й апекаваліся імі канадыйскія сем'і. Дзецям было паказанае жыцьцё Канады, атрыкцыі Таронта і слаўнай Ніагары. У нядзелю 18-га жніўня беларускае грамадзтва Таронта мела нагоду пазнаёміцца з часткай дзяцей, паслухаць беларускую самадзейнасьць і зрабіць складчыну, каб яны мелі добры ўспамін пра далёкіх суродзічаў у Канадзе. Калі прыйшоў час развітацца за гасьціннымі апякунамі і зычлівай Канадай, многія казалі, што маглі-б астацца тут назаўсёды. Адпачыўшыя, адзетыя й абутыя ды з рознымі клункамі далучыліся да іншых групаў з ваколіцаў Аттавы і вярталіся у сваю Бацькаўшчыну, дзе хуткім тэмпам ідуць зьмены на лепшае.

Канадыйскія сродкі інфармацыі, радыё, тэлебачаньне і прэса выявілі вялікую цікавасьць да Чарнобыльскага няшчасьця ў Беларусі, працы Фонду і наагул становішчам у былым Саюзе. Шматлікія інтэрв'ю з журналістамі і карэспандэнтамі належна перадаваліся адпаведнымі сродкамі інфармацыі.

**Мікола Ганько**

*Фотарэпартаж аб пабыце беларускіх дзяцей у Канадзе будзе зьмешчаны ў наступным нумары «Беларуса».*

## СУСТРЭЧА ПРЭЗЫДЭНТА ГАРБАЧОВА Ў ЛЁНДАНЕ І ПРАТЭСТ




*Беларуская група дэманструе ў Лёндане ў вабароне В. Сядова*

Прэзыдэнта М. Гарбачова, які прыбыў у Лёндан дня 17-18-га ліпеня для сустрэчы зь «Вялікай Сямёркай» віталі тут чыньнікі Брытанскага ураду. Аднак пікетоўшчыкі ад розных нацыянальнасьцяў дэманстравалі з дамаганьнем свабоды, якая у рэспубліках Савецкага Саюзу яшчэ недастаткава праяўляецца. Дэманстрацыі адбываліся перад будынкам канфэрэнцыі «Сямёх» на Вэстмінстэр і перад будынкам Савецкага пасольства.

Беларусы са сваімі сьцягамі выступалі перад будынкам канфэрэнцыі з дамаганьнем вызваленьня з турмы Валерыя Сядова. Справай Сядова зацікавіліся ня толькі Amnesty International, але і іншыя чыньнікі абароны правоў чалавека ды прадстаўнікі сьвету літаратуры.

**А. Зданковіч**

## БЕЛАРУСКАЯ ТЕМАТЫКА Ў АНГЛАМОЎНЫМ ДРУКУ

Газэта Somerset Messenger Gazette, што выдаецца ў горадзе Самэрвіл у штаце Нью-Джэрзі у нумары за 22 жніўеня сёлета выдрукавала інтэрвію з сп. Адольфам Суботам, шчырым беларускім патрыётам, сябрам БАЗА і вельмі адданым сябрам прыходу БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ў горадзе Гайлянд Парку (сам Адольф Субота — каталік) аб ягоным наведаньні Бацькаўшчыны ды ягоных паглядах на палітычныя зьмены ў БЕЛАРУСІ.

### В. СЯДОЎ НА ВОЛІ

Друк Беларускага Народнага Фронту, паведамляе што Валеры Сядоў быў нядаўна вызвалены з турмы. Сваю эпапею арышту й зьняволеньня Валеры Сядоў апісвае ў артыкуле «Семдзесят дзён у СІЗО» выдрукаваным у «Навінах» Беларускага Народнага Фронту — Адраджэньне, но. 5, 1991.

### ЗЬМЕНА КІРАЎНІЦТВА

Як паведамляе газэта «Навіны» БНФ — Адраджэньне, нр. 5, сёлета, сп. Генадзь Грушавы звольнены ад абавязкаў старшыні Камітэту БНФ "Дзеці Чарнобыля», а прадстаўніком БНФ, упаўнаважненым для працы па лініі камітэту «Дзеці Чарнобыля», зьяўляецца сябра Сойму ды Ўправы БНФ — Валеры Буйвал.



## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ВАШЫНГТОНЕ

12-га ліпеня прэзыдэнт Буш падпісаў праклямацыю, дзе абвесьціў тыдзень, які пачынаўся 14-га ліпеня, Тыдням Паняволеных народаў. Падпісаньне праклямацыі было ўрачыста адзначанае банкетам, які наладзіў Нацыянальны Камітэт Паняволеных народаў у сэнацкім будынку Дырксана ў Вашынгтоне 25-га ліпеня сёлета. На банкет былі запрошаныя прадстаўнікі 15-цёх этнічных групаў — рэпрэзэнтантаў паняволеных народаў. Ад беларусаў на ўрачыстасьці былі прысутнымі старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч і сп-ня Іраіда Завістовіч. Пры ўваходзе ў сьвяткавальную залю раздаваліся прыгожа выкананыя інфармацыйныя матар'ялы зь гісторыі беларускага змаганьня за незалежнасьць у апошнія 70 зь лішкам гадоў ды пра забойствы Беларусаў у Курапатах.

Амэрыканскі Кангрэс быў прадстаўлены сэнатарамі Стывам Сымсам, Полам Сайманам і кангрэсманамі Д. Рорабакерам і Крысам Каксам. Усе яны прамаўлялі ў афіцыйнай частцы банкету, кіраўніком якое быў старшыня Нацыянальнага Камітэту Паняволеных Народаў амбасадар Леў Дабрянскі. З прамовай на абедзе выступіў таксама сакратар Дэпартамэнту па Справах Вэтэранаў Эдуард Дэрвінскі, які на працягу ўсіх 32-х гадоў ад часу падпісаньня першае праклямацыі, заўсёды дзейна падтрымліваў паняволеныя народы ў іх змаганьні за волю й незалежнасьць. Ня гледзячы на пэўныя зьмены ва ўсходняй Эўропе, сп. Дэрвінскі заклікаў прысутных да далейшай падтрымкі паняволеных народаў у іхным справядлівым змаганьні за незалежнасьць.

Цікавай неспадзеўкай было выступленьне Юрыя Шухэвіча, прадстаўніка антыкамуністычнага руху на Украіне. Юры Шухэвіч ёсьць сынам Тараса Чупрынкі (Рамана Шухэвіча), які быў кіраўніком партызанскага войска на Украіне — Украінскай Паўстанцкай Арміі — пасьля Другой Сьвятовай вайны. Ён прабыў 33 гады ў савецкіх лягерох няволі. У сваёй прамове Шухэвіч заклікаў Злучаныя Штаты не даваць эканамічнае дапамогі савецкаму цэнтральнаму ўраду пакуль ім ня будуць праведзеныя ў жыцьцё ідэі дэмакратыі, вольнага рынку ды ня будуць прызнаныя правы рэспублік на поўную й безагаворную незалежнасьць.

**Р. З.**

# Газэта Беларус ды беларускае грамадзтва Нью-Ёрку й ваколіцаў вітаюць 24-ы Кангрэс Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня

В. Кіпель

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСАЎ У АМЭРЫЦЫ

**(Вытрымкі з манускрыпту Byelorussians in the United States)**

Кангрэсы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вядуць пачатак ад **1949** году, калі адбыўся першы арганізацыйны сход ініцыятыўнае групы — заснавальнікаў арганізацыі, які ўважаецца **першым кангрэсам.** Гэты сход адбыўся 21 ліпеня 1949 году ў Мангэтэне пад адрасам 325 Е 100-я вуліца. У кіраўніцтва былі выбраныя: Мікола Гарошка — старшыня, д-р Янка Станкевіч — заступнік старшыні, праф. Мікола Дарашэвіч — другі заступнік старшыні й скарбнік, а сябрамі ўправы былі абраныя Янка Ніхаёнак, Міхась Тулейка ды Ўладзімер Машанскі.

**2-і Кангрэс** адбыўся ў Брукліне 17-18 лютага 1951 году. У Галоўную Управу БАЗА былі выбраныя: Мікола Гарошка за старшыню, Міхась Тулейка — заступнік старшыні, Язэп Арцюх — сакратар. За сяброў управы былі выбраныя: Натальля Арсеньнева, Янка Ніхаёнак, праф. Мікола Дарашэвіч і Пётра Манькоўскі.

**3-і Кангрэс** быў скліканы 1-2 сакавіка 1952 году ў Брукліне. Было абранае наступнае кіраўніцтва БАЗА: ген. Францішак Кушэль за старшыню, першы заступнік старшыні — Часлаў Будзька, другі заступнік старшыні — Браніслаў Дубоўскі, Уладзімер Русак — скарбнік, Аляксандар Валюшка — сакратар, сябры ўправы: Натальля Арсеньнева і Барбара Вержбаловіч.

**4-ы Кангрэс** адбыўся ў Мангэтэне ад 28 лютага да 1-га сакавіка 1953 году. Была выбраная гэткая Галоўная Управа: ген. Францішак Кушэль — старшыня, заступнік старшыні — Часлаў Ханяўка, Іна Рытар — сакратар, Уладзімер Русак — скарбнік, Барбара Вержбаловіч — сябра управы.

**5-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся таксама ў Мангэтэне 20-21 лютага 1954 году. Нававыбраная Галоўная Управа БАЗА ўлучала: Міхась Тулейка — старшыня, Д-р Аўген Вярбіцкі — першы заступнік старшыні, Міхась Міцкевіч — другі заступнік старшыні, сакратары: Пётра Манькоўскі, Яніна Кахаоўская й Іна Рытар, Аўген Протас — скарбнік, сябры ўправы: Ганна Акановіч і Ніна Сьпічонак.

**6-ы Кангрэс** арганізацыі меў месца ў Мангэтэне 28-29 травеня 1955 году. У Галоўную Управу БАЗА былі выбраныя: Міхась Тулейка — старшыня, д-р Аўген Вярбіцкі — першы заступнік старшыні, Уладзімер Курыла — другі заступнік старшыні, Міхась Каранеўскі — трэйці заступнік старшыні, сакратары: Юрка Станкевіч і Яніна Кахаоўская, сябры ўправы: д-р Янка Станкевіч, Часлаў Ханяўка і Ніна Сьпічонак.

**7-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў Мангэтэне ад 1-га да 2-га чэрвеня 1957 году. Галоўная ўправа арганізацыі складалася з: Мікола Кунцэвіч — старшыня, Пётра Манькоўскі — заступнік старшыні, сакратары: Юрка Станкевіч і Пётра Дварэцкі, скарбнік — Аўген Протас, сябры ўправы: д-р Янка Запруднік і Уладзімер Курыла.

**8-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на Атлянтык Авэню ў Брукліне 30-31 травеня 1959 году. У Галоўную Управу БАЗА былі выбраныя: Кастусь Мерляк — старшыня, Васіль Пляскач і Францішак Бартуль — заступнікі старшыні, Натальля Арсеньнева — сакратар, Пётра Ганэцкі — скарбнік, сябры ўправы: Васіль Шчэцька і Ніна Стома.

**9-ы Кангрэс** адбыўся ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 27-28 травеня 1961 году. Выбраная Галоўная Управа БАЗА складалася з: Кастусь Мерляк — старшыня, Францішак Бартуль і Васіль Пляскач — заступнікі старшыні, Васіль Шчэцька — сакратар, Пётра Ганэцкі — скарбнік, сябры ўправы: Натальля Арсеньнева, Ніна Стома, Вера Бартуль, Галіна Орса і Аўген Несьцяровіч.

**10-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 12 чэрвеня 1963 году. У Галоўную Управу БАЗА былі выбраныя: д-р Станіслаў Станкевіч — старшыня, Міхась Тулейка — першы заступнік старшыні, д-р Язэп Сажыч — другі заступнік старшыні, Вячаслаў Станкевіч — сакратар, Аляксандр Міцкевіч — скарбнік, сябры ўправы: Антон Адамовіч, Францішак Бартуль, Браніслаў Даніловіч, Мікола Гарошка і Натальля Арсеньнева.

**11-ы Кангрэс** арганізацыі адбыўся таксама ў Брукліне ў памешканьні Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага 18-19 верасьня 1965 году. Была выбраная Галоўная Управа БАЗА ў наступным складзе: Мікола Гарошка — старшыня, Міхась Тулейка й Юрка Станкевіч — заступнікі старшыні, сябры ўправы: д-р Язэп Сажыч, д-р Станіслаў Станкевіч, Мікола Кунцэвіч, Браніслаў Даніловіч, Натальля Арсеньнева.

**12-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў Брукліне, у Катэдральным Саборе Сьв. Кірылы Тураўскага, 27-28 травеня 1967 году. Была выбраная новая Галоўная Управа БАЗА ў такім складзе: Уладзімер Курыла — старшыня, д-р Язэп Сажыч, Мікола Кунцэвіч і Аляксандр Міцкевіч — заступнікі старшыні, сябры ўправы: Пётра Манькоўскі, д-р Уладзімер Набагез, д-р Расьціслаў Гарошка, д-р Уладзімер Бакуновіч, Мікола Гарошка, Браніслаў Даніловіч, Кастусь Калоша, кандыдаты — д-р Віктар Васілеўскі і Янка Азарка.

**13-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў памешканьні Царквы БАПЦ Сьвятое Жыровіцкае Маці ў Гайлянд Парку ў штаце Нью-Джэрзы 30-31 травеня 1969 году. У склад новае Галоўнае Управы БАЗА ўвайшлі: Вячаслаў Станкевіч — старшыня, сябры ўправы: д-р Расьціслаў Гарошка, д-р Язэп Сажыч, Янка Азарка, Уладзімер Курыла, Браніслаў Даніловіч, Сяргей Карніловіч, Васіль Пляскач, Кастусь Калоша, Зіна Станкевіч, Клаўдзія Каляда, Аляксандр Міцкевіч.

**14-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага у Брукліне 30-га травеня 1971 году. Нававыбраныя Галоўная Управа БАЗА складалася з: д-р Расьціслаў Гарошка — старшыня, Вячаслаў Станкевіч, Уладзімер Курыла і Васіль Пляскач — заступнікі старшыні, д-р Алла Орса-Рамано і Раіса Станкевіч — сакратары, Браніслаў Даніловіч — скарбнік, сябры ўправы: Юрка Мазура, Андрэй Стрэчынь, Уладзімер Дунец, Міхась Тулейка і Аляксандр Міцкевіч.

**15-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў царкве БАПЦ Сьвятое Жыровіцкае Маці ў Гайлянд Парку ў штаце Нью Джэрзы 1-2 верасьня 1973 году. Была выбраная наступная Галоўная Управа БАЗА: д-р Расьціслаў Гарошка — Старшыня, сябры ўправы: д-р Язэп Сажыч, Францішак Бартуль, Расьціслаў Войтэнка, Вячаслаў Станкевіч, Аляксандр Міцкевіч, Уладзімер Дунец, Васіль Русак, Галіна Орса.

**16-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся як і папярэдні кангрэс у Гайлянд Парку 24 травеня 1975 году ды ў нававыбраную Галоўную Управу арганізацыі ўвайшлі: Антон Шукелойць — старшыня, сябры ўправы: Вячаслаў Станкевіч, Васіль Русак, Ян Бруцкі, Ян Раковіч, Сяргей Гутырчык, Раіса Станкевіч, Ольга Запруднік.

**17-ы Кангрэс** БАЗА быў скліканы 3-га верасьня 1977 году на беларускім селішчы Полацак у горадзе Стронгсвіл, штат Агаё. У нававыбраную Галоўную Управу БАЗА ўвайшлі: Антон Шукелойць — старшыня, Вячаслаў Станкевіч — заступнік старшыні, Васіль Русак — скарбнік, Ольга Запруднік — сакратар, сябры ўправы: Юрка Азарка і Раіса Станкевіч.

**18-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся ў Гайлянд Парку, штат Нью Джэрзі 1-2 верасьня 1979 году. Галоўная Управа арганізацыі была выбраная ў наступным складзе: Антон Шукелойць — старшыня, Вячаслаў Станкевіч і Францішак Бартуль — заступнікі старшыні, Зора Кіпель — сакратар, сябры ўправы: д-р Янка Запруднік, Васіль Русак, Юрка Азарка, Раіса Станкевіч.

**19-ы Кангрэс** БАЗА адбыўся гэтаксама ў Гайлянд Парку 5-6 верасьня 1981 году. Папярэдняя ўправа была перавыбраная з гэткім падзелам функцыяў: Антон Шукелойць — старшыня, Францішак Бартуль і Вячаслаў Станкевіч — заступнікі старшыні, Зора Кіпель — сакратар, Васіль Русак — скарбнік, сябры управы — д-р Янка Запруднік, Юрка Азарка і Раіса Станкевіч.

**20-ы Кангрэс** БАЗА праходзіў таксама ў Гайлянд Парку 3-га верасьня 1983 году. У новую Галоўную управу арганізацыі былі выбраныя: Антон Шукейлоць — старшыня, сябры управы: Францішак Бартуль, Аляксандр Міцкевіч, Раіса Станкевіч, Юрка Азарка, Васіль Русак, Вячаслаў Станкевіч, Уладзімер Русак, д-р Янка Запруднік, д-р Уладзімер Бакуновіч.

**21-ы Кангрэс БАЗА** адбыўся ў Гайлянд Парку 31 жніўня — 1-га верасьня 1985 году. За старшыню арганізацыі быў перабраны Антон Шукелойць, а ў новую Галоўную Управу ўвайшлі: д-р Янка Запруднік, д-р Уладзімер Бакуновіч, Францішак Бартуль, Аляксандр Міцкевіч, Юрка Азарка, Васіль Русак, Вячаслаў Станкевіч, Уладзімер Русак, Раіса Станкевіч.

**22-гі Кангрэс** БАЗА адбыўся таксама ў Гайлянд Парку 5-6 верасьня 1987 году. У Галоўную Управу ўвайшлі: Антон Шукелойць — старшыня, Вячаслаў Станкевіч і Францішак Бартуль — заступнікі старшыні, Вера Запруднік — сакратар, Васіль Русак — скарбнік, сябры управы: д-р Янка Запруднік, д-р Уладзімер Бакуновіч, Аляксандр Міцкевіч, Юрка Азарка, д-р Алла Орса-Рамано, Раіса Станкевіч.

**23-і Кангрэс** БАЗА адбыўся ў памешканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў раёне Нью-Ёрку Куінс 2-га верасьня 1989 году. Выбраная была новая Галоўная Управа БАЗА ў такім складзе: Антон Шукелойць — старшыня, заступнікі старшыні — Юрка Азарка і Францішак Бартуль, сябры управы: д-р Юрка Кіпель, д-р Алла Орса-Рамано, Вера Запруднік, Раіса Станкевіч, Васіль Русак, Аляксандр Міцкевіч, Віктар Тур.



## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

### Да 75-годзьдзя газэты «Гоман»

Апошні нумар газэты «Наша Ніва» выйшаў у жніўні 1915 году, а хутка пасьля гэтага нямецкія войскі занялі Вільню. Перад Беларускім Віленскім Камітэтам стала адразу-ж на парадак дня справа выдаваньня беларускае газэты. Нямецкія акупацыйныя ўлады не сьпяшаліся аднак задаволіць патрэбы беларускага жыхарства. Да немцаў была высланая спэцыянальная дэлегацыя на чале зь Іванам Луцкевічам, дамагацца дазволу на выданьне беларускамоўнае газэты. Нейкі час вяліся перамовы, і немцы, нарэшце, згадзіліся на выданьне беларускае газэты. Першы нумар газэты «Гоман» выйшаў у лютым 1916 году. Рэдагавалі газэту напачатку Іван і Антон Луцкевічы, але рэдактарства хутка пераняў Вацлаў Ластоўскі. Выходзіла газэта два разы на тыдзень, лацінкай і кірыліцай. Уся праца ў газэце вялася на грамадзкіх пачатках, хоць час-часом ганарары выплачваліся тым супрацоўнікам, якія знаходзіліся ў асабліва цяжкім матар'яльным стане.

Як раней пры газэце "Наша Ніва", гэтак і пры газэце «Гоман» згуртаваўся беларускі віленскі актыў. Газэта «Гоман» заняла выразную палітычную пазыцыю, што Беларусь павінна аднавіць незалежнасьць ды наладзіць магчымую сувязь зь Летувай дзеля аднаўленьня дзяржаўнасьці Вялікага Княства Літоўскага. Трэба падкрэсьліць, што ў газэце «Гоман» друкавалася шмат палітычна-праграмовага беларускага матар'ялу ды выдатна дакумэнтавалася беларуская дзейнасьць, як на бацькаўшчыне, гэтак і ў дыяспары, улучна з Амэрыкай. Бясспрэчна, што газэта «Гоман» была ідэалягічным прадаўжальнікам газэты «Наша Ніва», але больш канкрэтна сфармулявала дзяржаўніцкія пагляды беларускага нацыянальнага руху. Газэта выходзіла да 1918 году. Адзначаючы 75-годзьдзе газэты «Гоман», варта паклапаціцца пра перавыданьне газэты факсымільным спосабам.

---

Сёлета ў травені (а не ў чэрвені, як памылкова зазначана ў БелСЭ) споўнілася 65 год ад заснаваньня ў Вільні таварыства «Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры», беларускае нацыянальнае эканамічна-культурнае арганізацыі, якая ставіла за мэты падтрыманьне разьвіцьця: а. краёвага земляробства, б. прамысловасьці і тэхнікі, в. духовай культуры, навукі й асьветы. Закладчыкамі таварыства былі: Аляксандр Бабянскі, Алексы Назарэўскі, Аляксандр Уласаў, Браніслаў Крыжаноўскі і Адам Більдзюкевіч. Арганізацыя спыніла сваю дзейнасьць у 1936 годзе у выніку забароны яе польскімі ўладамі.

---

*Заўвага ўкладальніка гэтага сьпісу.*

Пакольку выдрукаваныя дадзеныя зьбіраліся з розных архіваў: Галоўнае Управы БАЗА, мясцовых аддзелаў ды прыватных, а таксама шмат прозьвішчаў узятыя з друкаваных крыніцаў — у гэтым сьпісе могуць быць і пропускі і недакладнасьці.

Дзеля гэтага, укладальнік прасіў-бы грамадзтва, а перадусім былых і цяперашніх актывістаў БАЗА, пераглядзець гэтыя дадзеныя ды падзяліцца заўвагамі аб іх з укладальнікам.

В. К.

## З ЖЫЦЦЯ Ў ЧЫКАГА

*Дзень Паняволеных Народаў*

16-га ліпеня сёлета ў штатным будынку ў Чыкага быў адзначаны Дзень Паняволеных народаў. Старшыня Камітэту гэтай арганізацыі гораду Чыкага, спадар Казімір Оксас, у сваім слове нагадаў палітычныя падзеі ва Ўсходняй Эўропе і ў Савецкім Саюзе за мінулы год, а таксама сказаў пра заданьні Камітэту на будучыню. Спадарыня Пэт Міхальскі, спэцыяльная асыстэнтка губэрнатара Іліноя па этнічных справах, прывітала ўсіх прысутных ад імя губэрнатара Джымы Эдгара.

У далейшай праграме дня сп. Казімір Оксас уручыў узнагародную плякатку спадару Нікодэму Жызьнеўскаму, кіраўніку беларускіх радыёперадачаў «Нёман», за даўгагадовую плённую працу для Камітэту Паняволеных Народаў гораду Чыкага, а гэтаксама Украінскаму Кангрэсаваму Камітэту Амэрыкі, які рэпрэзэнтаваў Др. Міраслаў Харкевіч, ды губэрнатару Джыму Эдгару.

*Царкоўныя ўгодкі ў Чыкага*

У нядзелю 30 чырвеня сёлета былі адзначаныя 30-ыя ўгодкі ад пасьвячэньня беларускай каталіцкай царквы усходняга абраду Хрыста Збаўцы ў Чыкага.

Урачыстая Літургія была адслужаная а. Язэпам Сыру, настаяцелям гэтае царквы, у саслужэньні трох сьвятароў. Царкоўны хор, узмоцнены новымі галасамі, пад кіраўніцтвам Эдвіна Уокэра прыгожа выканаў літургічныя напевы.

Крыху зь гісторыі нашай царквы. Арганізацыя Царквы Хрыста Збаўцы пачалася ўлетку 1955 году, калі група беларусаў Чыкага — пры гэтым трэба зазначыць асабліва руплівасьць сьв. памяці Эдуарда Будзькі і гэнэрала Міколы Дзямідава — зьвярнуліся да абата манастыра Сьвятога Пракопія у Ляел Амброза Ондрака з просьбай вызначыць манаха, каторы задавальняў-бы духовыя патрэбы беларусаў Чыкага. Абат Ондрак вызначыў а. Янку Тарасэвіча, ведамага сваёй дзейнасьцяй для беларусаў. Дапамагаў яму а. Язэп Рэшацьць да сваёй сьмерці ў 1958 годзе.

Спачатку багаслужбы адбываліся ў нанятай залі пры вуліцы Вабанцыі, тады ў школьнай залі Сьв. Алёізыя, а пазьней у капліцы Джозэфінум Гай Скул аж да вясны 1960 году.

Увосені 1958 г. а. Уладзімір Тарасэвіч вярнуўся з Рыму і Абат вызначыў яго дапаможнікам а. Янку Тарасэвічу, ды гэтаксама настаяцелям царквы.

Улетку 1959 году быў знойдзены будынак сяньняшняй царквы Хрыста Збаўцы, які быў пасьвечаны 2 ліпеня 1961 г. біскупам Чаславам Сіповічам у прысутнасьці кардынала Альбэрта з Чыкага. Царква Хрыста збаўцы сталася рэлігійна-грамадзка-культурным цэнтрам беларусаў Чыкага.

У сваёй прынагоднай казані а. Я. Сыру нагадаў, што 30 гадоў таму на амэрыканскай зямлі была пасьвячана першая беларуская каталіцкая царква ўсходняга абраду — у сваім уласным будынку, дзе Беларусы пачулі сваю родную мову. Гэтая сьвятыня сталася духовым домам і этнічным цэнтрам.

Урачыстая літургія закончылася адсьпяваньнем рэлігійнага гімну «Магутны Божа» па-беларуску й па-ангельску. Усьлед за гэтым усе прысутныя сабраліся ў царкоўнай залі на банкет.

**Др. В. Р.**



*Справа: Нікодым Жызьнеўскі, асыстэнт губэрнатара, беларускія прадстаўнікі ды асыстэнтка губэрнатара Пат Міхальскі.*

## НА ПІКНІКУ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіначэньня й Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью-Джэрзы супольна зладзілі пікнік 25-га жніўня 1991 г. каля Царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлянд Парку.

Пасьля Божай Службы, якую правіў настаяцель Парафіі айцец Васіль, удзельнікі пікніку спажылі смачную ежу, нарыхтаваную спадарынямі Тамарай Януш і Гэляй Каранеўскай з Жаночай Сэкцыі БАЗА і Вольгай Тулейка. Пасьля айцец Васіль і Янка Азарка — старшыня Аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы расказалі пра свае ўражаньні з нядаўняй паездкі на Бацькаўшчыну Беларусь. Сп. Янка Запруднік гутарыў пра апошнія падзеі ў Савецкім Саюзе й рэакцыю Менску на гэныя важныя палітычныя падзеі — ліквідацыі камуністычнага рэжыму. Сп. Антон Шукелойць — Старшыня Гал. Управы БАЗА паінфармаваў пра 24-ты Кангрэс БАЗА, які адбудзецца 14 і 15 верасьня сёлета ў Гайлянд Парку, Н.Дж. Ён-жа паведаміў сумную вестку пра сьмерць заслужанага беларускага дзеяча др. Балеслава Грабінскага ў Флярыдзе. Усе прысутныя на пікніку ўшанавалі ягоную памяць хвілінай цішы. Сяргей Гутырчык горача падзякаваў усім за дапамогу ягонай сям'і.

У часе пікніку, які даў добры прыбытак у касу арганізацыяў, была разыграная лятарэя, фанты для якой ахвяравалі ўдзельнікі пікніку. Праграмай пікніку кіраваў сакратар Аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы сп. Міхась Тулейка. Нямала прыклалі стараньняў сябры ўправаў Аддзелу БАЗА й Вэтэранаў, каб пікнік прайшоў удала. Да гэтага прычыніліся й усе, хто прыбыў на яго з Нью-Джэрзы й іншых Штатаў Амэрыкі. Арганізацыйны Камітэт Пікніку дзякуе ўсім, хто прыбыў на ўдалую летнюю зборку, якая прайшла ў мілай сяброўскай атмасфэры.

Прысутныя на пікніку упяршыню пачулі аб тым што Беларусь абвесьціла Незалежнасьць. Гэтую цудоўную вестку прынесьлі спадарства Алег і Жэня Дубягі. Спантанічным парывам песьні «Падняты вольны сьцяг дзяржавы» грамада выказала сваю салідарнасьць з Бацькаўшчынай.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Арганізацыйны Камітэт пікніку**



## СП. ЯНКА АЗАРКА РАСКАЗВАЕ

Спаткалі нас і прывіталі ў Менску на аэрадроме з кветкамі, зь беларускімі сьцягамі. Я меў гонар падзякаваць ім за такі цёплы прыём. У той-жа дзень зьведвалі Менск. На другі дзень Хатынь. Між іншага, даведаліся цікавую дэталь з прыезду прэз. Ніксана ў Хатынь. Перад ягоным прыездам раздалі сялянам вёскаў, праз якія мела праязджаць дэлегацыя, бляху — каб пакрылі стрэхі, але толькі з аднаго боку, з боку вуліцы. Сяляне-ж перахітрылі ўлады, ды пакрылі тыя бакі, што не ад вуліцы, і, гэткім чынам, дасталі яшчэ бляхі, каб скончыць «дэкарацыю».

Наведалі мы й прыгожыя мясьціны, дзе нарадзіўся Я. Купала. Там нам таварыства «Бацькаўшчына» наладзіла пікнік у ляску, каля крынічкі.

Мелі спатканьне ў Менску з паэтамі й пісьменьнікамі.

Пазьней сваякі забралі мяне ў Баранавічы. Баранавічы зрабілі на мяне няцікавае ўражаньне. Ваенны гарадок. У магазынах нічога няма. Зайшлі у рэдакцыю «Баранавіцкай Газэты». Пазнаёміўся з рэдактарам. Меў зь ім гутарку, якую запісалі. Зазначыў яму, што ніхто ў горадзе не гаворыць пабеларуску. Пабываў я і ў сваёй вёсцы, ды ў Жыровіцах. Быў і ў Стоўпцах — у хатцы сярод лесу, у якой нарадзіўся Я. Колас.

Меў нагоду таксама пабываць на сходзе БНФ. Там спаткаліся з матушкай Смаршчок з сынам.

Уражаньні мае з паездкі на Беларусь вельмі моцныя і надоўга застануцца ў памяці.

## У АДВЕДЗІНАХ БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ

Напрыканцы месяца чэрвеня сёлета прыехала група дзяцей зь Беларусі на двутыднёвую пабыўку ў штаце Мічыган. Аб гэтым паведаміў нам спадар Мікола Пруські з Грэнд Рапідс, які прыймаў ўдзел, сумесна з арганізацыяй Family Christian Association, у наладжаньні праграмы пабыту. Паводля праграмы група дзяцей, што налічвала 6 хлопцаў і 4 дзяўчынкі у веку ад 7-і да 17-і гадоў мелі быць ад 3-га чэрвеня да 6-га ліпеня разьмешчаныя ў амэрыканскіх сем'ях у горадзе Маскіган, а пазьней мелі пабываць у летнім лягеры ў лесе над возерам Блю Лэйк.

Усе дзеці, якія церпяць на тую ці іншую форму рака і праходзяць лячэньне й апэрацыі на Беларусі, былі мэдычна агледжаныя ў шпіталі ў Маскіган.

Мая жонка Вера і я пастанавілі адведаць беларускіх дзяцей — ахвяраў Чарнобыльскай нуклеарнай аварыі. 11-га ліпеня мы выехалі ў дарогу. Пагода была сонечная й гарачая, але ў гутарцы час прайшоў даволі хутка. За Маскіган дарога пайшла лесам і не агледзіліся, як апынуліся над берагам возера Блю Лэйк. Тут спаткалі нашага знаёмага Міколу Прускага у таварысьцьве беларускай лекаркі і лекара азэрбайджанца, які працуе каля 15 гадоў на Беларусі. Прывіталіся ... а далей гутарка пайшла аб Беларусі, аб хворых дзецях.

Вось і дзеці варочаюцца з паездкі лодкамі па возеры. Гуртам падыходзяць да нас. Усе яны тыповыя беларускія дзеці: бялявые альбо шатэны, сінявокія, худзеньнія, стрыманыя, ды, да пэўнай меры, сумнаватыя. Доктар-азэрбайджанец знаёміць дзяцей з намі і расказвае аб іхных хваробах. Па-беларуску разумеюць, бо мелі беларускую мову як прадмет у школе, але няшмат зь іх гутараць на роднай мове. Распытваем дзяцей пра іхных бацькоў, дзе яны жывуць на Беларусі. Пытаем ці падабаецца ім Амэрыка і ўсе дружна адказваюць «так». А на пытаньне якая амэрыканская страва найлепш падабаецца, адказваюць: піца й гамбургі.

Вера раздала ім сьціплыя падарункі ды жэтоны з нацыянальным сьцягам, з «Пагоняй» і напісам Беларусь.

Між іншага, лекарка зазначыла, што няведама, ці дзеці папpавяцца, але прынамся тут яны прыадзеліся.

Напошку — супольная фатаграфія зь дзецьмі, разьвітаньне ды пажаданьне ім усяго найлепшага.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ВЫВУЧЭНЬНЕ ЎСХОДНЯЕ ЭЎРОПЫ

23 жніўня губэрнатар штату Нью Джэрзы, Джым Флёрыё, падпісаў, спецыяльнае распараджэньне аб аднаўленьні дзейнасьці Камісіі для вывучэньня гісторыі Ўсходняе Эўропы. Як ведама, гэтая штатная камісія была створаная ў 1982 годзе з мэтай апрацаваньня вытычных для падручнікаў гісторыі Ўсходняе Эўропы для школаў штату Нью Джэрзы.

Гэты этап ўжо пройдзены, і цяперашняя камісія будзе весьці перамовы з выдаўцамі і аддзелам асьветы аб канкрэтных кроках выданьня падручніка. На ўрачыстасьці ад беларусаў узялі ўдзел спадарства Галіна й Васіль Русакі і Вітаўт Кіпель.

# СТАГОДЗЬДЗЕ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА 1891-1991

Селёта спаўняецца 100 гадоў ад нараджэньня вялікага таленавітага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Юбілей гэты адзначаецца ўсім літаратурным грамадзтвам на Беларусі ды за межамі яе. Беларуска-Амэрыканская грамада плянуе ўшанаваць нашага песьняра выстаўкамі, лекцыямі, выданьнем кнігаў прысьвечаных Багдановічу, выпускам адмысловага плякату й паштовак, ды іншымі мерапрыемствамі.

Першае гэткае адзначэньне ўжо адбылося.

## ВЫСТАЎКА Ў ГАРАДЗКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ НЬЮ-ЁРКУ

Селёта ў вясновым сэзоне Квінсаўскі Каледж Гарадзкога Унівэрсытэту Нью-Ёрку ладзіў выстаўку прысьвечаную стагадоваму юбілею ад дня нараджэньня вялікага беларускага паэтыклясыка, Максіма Багдановіча.

Выстаўка складалася зь пяцёх вялікіх вітрынаў, разьмешчаных у залях новай бібліятэкі каледжу. Пры ўступе да выстаўкі была вывешаная карта Беларусі, на якой былі адзначаныя мясьціны зьвязаныя з творчасьцю М. Багдановіча ды партрэт паэты. Выставы былі сплянаваныя тэматычна: найбольш выдатныя творы паэты, «Апокрыф», «Слуцкія ткачыхі» ды іх пераклады; выданьні розных выдавецтваў твораў Максіма Багдановіча. Асобнае мейсца на выстаўцы займалі працы аб М. Багдановічу, дзе аддавалася перавага працам замежнамоўным ды энцыкляпэдычным. Арыгінальнай была вітрына з Багдановічавай «варыяй», ці-то, значкі прысьвечаныя Багдановічу, паштовыя карткі, Багдановічаў юбілейны каляндар і г.д.

Арганізаваньне выстаўкі ў каледжы мае вялізарнае значаньне для папулярызацыі беларускае культуры, бо-ж штодня яе наведваюць сотні студэнтаў ды карыстальнікаў бібліятэкай. Галоўная падзяка за выставу належыць ейнаму ініцыятару прафэсару Тому Бэрду.

## ЖАНЧЫНЫ-МАСТАКІ — БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Пад такім назовам 12 жніўня сёлета ў мастацкай галерэі Валтэрс пра Каледжы Даглас, Ратгэрскага Унівэрсытэту ў Нью-Брансьвіку, у штаце Нью-Джэрзы адчынілася выстаўка беларускіх мастачак.

Прывітальнае слова сказала Галіна Русак, якая была арганізатарам гэтае выстаўкі, пры вялікай дапамозе Ірэны Рагалевіч-Дутко. Галіна прывітала гасьцей, сярод якіх былі й госьці зь Беларусі, журналістка Тацьцяна Антонава й пісьменьнік Васіль Якавенка.

Калярытныя палотны Люды Махнюк адлюстроўваюць прыгожыя беларускія традыцыі.

Галіна Русак паказала свае навейшыя творы, якія нагадваюць узоры беларускіх тканінаў. Працы Галінінага ранейшага, абстрактнага пэрыяду, у якіх у асноўных колерах вобразна перадаецца прырода, былі гэтаксама прадстаўленыя.

Ст. Тамара ў моцным трыптыху адлюстравала трыдыцыі й сымбалі сваёй роднай Бацькаўшчыны ды сваёй новай краіны — Амэрыкі.

Івонка Сурвіла ў сваіх образах цудоўна перадала ідэю жанчыны-сьвятой — Прадславы-Еўфрасіньні Полацкай.



*Фрагмэнт з выстаўкі. На здымцы: Ст. Тамара, Тацьцяна Антонава, Люда Махнюк, Надзя Кудасава, Ірэна Рагалевч-Дутко і Галіна Русак.*

Больш за 30 абразоў упрыгожылі сьцены прасторнай, добра асьветленай галерэі. Таленавітыя беларускія мастачкі мелі магчымасьць паказаць сваё умельства на палотнах.

У выстаўцы прыймалі ўдзел: Ірэна Рагалевіч-Дутко, Галіна Русак, Людміла Махнюк, Ст. Тамара, Івонка Сурвіла да Надзя Кудасава. Розныя мастацкія прыёмы ды сюжэты былі выняткова ўдала выкарыстаныя мастачкамі.

Ірэна Рагалевіч-Дутко у сваіх працах добра выразіла любоў да прыроды й людзей.

Пра сябе хачу толькі зазначыць, што абразы мае передаюць маю любоў да беларускай прыроды, да ўсяго беларускага.

Трэба яшчэ дадаць, што ўсе мастачкі вельмі актыўныя ў беларускім грамадзкім жыцьці і укладваюць вялікую працу ў розных беларускіх асяродках, за што ім належыць вялікая падзяка.

Выстаўка, якая трывала ад 12-га да 16-га жніўня прайшла зь вялікім посьпехам.

**Надзя Кудасава**

## ІНТЭРВ'Ю ШЭРАН МОР



*Шэран Мор у радыё-студыі CitiHope.*

Трагічным вынікам Чарнобыльскай катастрофы на Беларусі ўсё больш і больш цікавіцца як беларуская грамада ў вольным сьвеце, гэтак і розныя заходнія харытатыўныя й рэлігійныя ўстановы.

Стараньнямі беларускіх арганізацыяў ды паасобных людзей ужо перададзена на Беларусь соткі тысячаў даляраў ды тысячы тонаў розных мэдыкамэнтаў, вітамінаў, харчоў ды мэдычных прыладаў. Варта тут зазначыць асабліва ахвярную дзейнасьць накатовых асобаў: а. А. Надсона зь Лёндану, Ларысы Урбан зь Мюнхэну, Міколы Прускага зь Мічыгану, Івонкі і Янкі Сурвілаў ды Уладыкі Мікалая (БАПЦ) з Канады.

Але асабліва важная цяпер для Беларусі падтрымка розных арганізацыяў, якія маюць шырокую сетку дзеяньня ды камунікацыі. Гэткай арганізацыяй і зьяўляецца CitiHope з галоўнай кватэрай у Нью-Ёрку. Нам пашчасьціла мець мажлівасьць пагутарыць з Шэран Мор, жонкай сьвятара Пола Мора, якая расказала нам як іхная арганізацыя CitiHope пачала цікавіцца беларускімі дзецьмі — ахвярамі Чарнобыля.

— Недзе пры канцы верасьня мінулага году — апавядае Шэран Мор — мой муж і сын былі ў Нямеччыне, якраз у пару калі злучаліся Заходняя й Усходняя Нямеччыны. Адтуль, на параду Генадзя Бураўкіна, сталага прадстаўніка БССР пры ААН, яны накіраваліся цягніком у Менск, каб пазнаёміцца бліжэй з праблемай Чарнобыля на Беларусі, зь Беларускім Фондам Дзеці Чарнобыля... Я засталася ў Нью-Ёрку, каб весьці радыёперадачы. Штодня яны мне тэлефанавалі й перадавалі інтэрв'ю зь беларускімі дзецьмі. Я пачала закохвацца ў галасы гэтых дзяцей — прадаўжае Шэран. Але што мяне найбольш усхвалявала й пераканала што мы мусім ім дапамагаць — гэта шчырыя адказы дзяцей на пытаньне: "Чаго вы найбольш жадаеце?" І, паверце мне, што дзіцячы адказ — «здароў'я», "я хачу жыць", "я не хачу паміраць" — на ўсё жыцьцё застанецца ў маёй сьведамасьці.

— Гэтак мы пачалі нашую дзейнасьць у дапамогу Беларусі, беларускім дзецям — ахвярам Чарнобыля. У адказ на нашыя радыёперадачы, на запросы, пачалі прыходзіць ахвяры. Фонды нашыя пачалі папаўняцца — бо мы арганізацыя не багатая, нашыя мэты рэлігійна-харытатыўныя. Праз International Medical Supply за кожныя 10 цэнтаў ахвяраваных мы атрымліваем мэдыкамэнтаў варатасьцяй на адзін даляр. Інакш кажучы, кожная грашовая ахвяра павялічваецца ў дзесяць разоў.

— Мая перашая візыта на Беларусь адбылася позьняй восеньню 1990 году. Якраз перад Днём Удзячнасьці. Дзесяць дзён я са сваімі спадарожнікамі — фільмапэратарамі й прадусэрамі — прабылі у забруджанай зоне калі Нароўлі — у апусьцелых вёсках, у «пахаваных» вёсках. Мэр гораду Нароўлі дазволіў нам там затрымацца. І вось тут, у дзіцячым доме, мы разам зь беларускімі дзецьмі адзначалі першы Дзень Удзячнасьці. Быў і традыцыйны індык, які нам неяк удалося даставіць. Дзеці былі захопленыя сьвятам, а я была захопленая дзецьмі. Наведалі мы й шпіталь. Якраз там памірала дзяўчынка і мяне папрасілі памаліцца за яе. Нічога больш я для яе не магла зрабіць, як памаліцца.

— Пасьля гэтай візыты, паездкі нашыя на Беларусь рабіліся часьцей і часьцей. На Каляды мы зноў наведалі беларускіх дзяцей. Усяго адбылося 9 падарожжаў. У чэрвені сёлета з нашай групай наведала Беларусь і Аня Бартуль з дэнтыстычнымі прыладамі. У нашых групах было колькі дактароўспэцыялістаў. Нашая арганізацыя мае падтрымку ад World Vision-World Compassion Ministry, ад Амэрыканскага Чырвонага Крыжу, Амэрыканскага Ракавага Таварыства, ад УМСА. Шмат нам дапамагае кампанія Нэстлей — яны пастаўляюць ежу-формулу для немаўлят.

— Праца нашая для дапамогі беларускім дзецям — прадаўжае спадарыня Мор — мае некалькі аспэктаў: дастаўка мэдыкамэнтаў, мэдычных прыладаў, эквіпунку для шпіталёў, ды незабруджанае ежы для дзяцей; рэлігійнадуховая падтрымка; ходаньне аб прывозе хворых дзяцей на лячэньне ў амэрыканскіх шпіталях, ды апека над імі тут. У гэтым апошнім нам асабліва дапамагае Роналд-МакДоналд-Гаўз. Яны даюць для дыспазыцыі прыезджых дзяцей і іхных бацькоў памешканьне й харчы.

На пытаньне ці цяперашнія перамены ў Савецкім Саюзе будуць мець нейкі ўплыў на працу CitiHope ў Беларусі, Шэран Мор адказала, што нават каб і была нейкая забарона, яны знайшлі-б спосаб памагаць беларускім дзецям. Мы робім гэта ня толькі таму што мы любім беларускіх дзяцей, але й дзеля таго што нас Бог пакіраваў на гэта — дадала яна.

Шэран Мор вельмі зацікавілася Беларускай Біблія́й для дзяцей, што мела быць выдадзеная Біблійным Таварыствам у Швэцыі, ды паабяцала цікавіцца ў якім стане гэтае выданьне знаходзіцца.

Як амэрыканска-беларуская грамада магла-б дапамагаць Вам? — запыталіся мы — і атрымалі вельмі канкрэтыня адказы: перакладніцкая дапамога; пісаньне лістоў ад нас, памагаць зь ліставаньнем, асабліва з афіцыйнымі беларускімі установамі; перакладаць доктарскія даведкі; памагаць бацьком дзяцей, якія знаходзяцца тут на лячэньні; ды, зразумела, фінансавая дапамога.

— Спадзяёмся на вашае супрацоўніцтва й дапамогу — закончыла Шэран Мор.

Іхны адрас:

CitiHope International
Children of Chernobyl
P.O. Box 38
Andes, N.Y. 13731-7900

**Гутарку вяла Зора Кіпель**



## ВІТАЕМ!

Даўгагадовага рэдактара газэты Беларус, сябру управаў БІНІМу, БАЗА ды Рады БНР, адданага й актыўнага працаўніка ў шмат якіх дзялянках беларускага грамадзка-палітычнага й навуковага жыцьця беларускае грамады ў Амэрыцы ды заслужанага дзеяча беларускага нацыянальнага руху ў дыяспары,

**ДОКТАРА ЯНА ЗАПРУДНІКА**

вітаем з круглым юбілеем ды жадаем шмат посьпеху ў даўна пачатай працы — гісторыі сучаснага беларускага палітычнага руху.

**Рада БНР, управа БАЗА, БІНІМу, АБАМ, і рэдкалегія газэты Беларус**



**ВЫСОКАШАНОЎНАГА АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСОНА**

Апостальскага візытатара беларускіх каталікоў у дыяспары, дырэктара Беларускае Бібліятэкі і Музэю імя Ф. Скарыны ў Лёндане, выдатнага грамадзкага й царкоўнага дзеяча ды навукоўца, беларускага місіянэра дапамогі ахвярам Чарнобыльскае трагэдыі вітаем з 65-і годзьдзем ды жадаем шмат посьпехаў у далейшай працы.

**БІНіМ,**
**БАЗА,**
**Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі і газэта Беларус**

---

**Зора Кіпель**

## «МАГУТНЫ БОЖА» — УПЯРШЫНЮ

Сярод ляскоў, палёў і невялікіх узгоркаў Ніжняй Баварыі, недалёка Дунаю знаходзіцца тыповы нямецкі гарадок Остэргофэн. Галоўная вуліца, пляц, вакол якога разьмясьціліся магазынчыкі, установы, гатэльчыкі, касьцёл, колькі пабочных вулічкаў — вось і ўвесь Остэргофэн. У Остэргофэне ад восені 1946 да вясны 1949 году быў разьмешчаны беларускі лягер для перамешчаных асобаў (ДП). У гэтым лягеры жвава йшло беларускае грамадзкае й культурнае жыцьцё — была й беларуская гімназія й пачатковая школа, беларускі скаўтынг, былі хоры, была тэатральная студыя, лягерная адміністрацыя; тут выдаваліся кніжкі й часопісы, тут і запачаткавалася шырока ведамая беларуская газэта «Бацькаўшчына».

Усё гэта прыгадалася, калі пару гадоў таму нам зноў давялося наведаць Остэргофэн і правесьці там колькі прыемных часінаў. Остэргофэн мала зьмяніўся — той самы пляц і дамы вакол яго, стаіць і той будынак, дзе мясьцілася беларуская гімназія, царква, і дзе жылі мае бацькі. Прыгадалася, як я прыязджала да іх на выхадныя дні, на вакацыі, бо я тады вучылася ў Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе, іншым беларускім лягеры. У бацькоў было прыемна,утульна — жылі яны тады ў ваднэй кватэры з кампазытарам Міколам Равенскім — і мы часта чулі як ён «пілікае» на сваёй неразлучнай іскрыпачцы, нешта творыць, практыкуецца, развучвае.

У адзін з такіх прыездаў да бацькоў, мама мне сказала: «Нешта-ж надта прыгожае піша сп. Равенскі». Гэта «нешта прыгожае» вылілася ў нешта магутнае — у гімн-малітву «Магутны Божа». Спадар Равенскі працаваў над музыкай на працягу вясны-лета 1947 году. Словы «Малітвы» Натальля Арсеньнева напісала раней, у 1942 годзе. У восені 1947 году гімн «Магутны Божа» быў выдрукаваны ў Парыжы.

Остэргофэнскія хоры, бо было іх два, царкоўны і сьвецкі, абодва пад кіраўніцтвам кампазытара Равенскага, развучвалі «Магутны Божа» недзе падвосень.

Увосені 1947 году адбываўся тыдзень маленьня за Беларусь і беларускі народ. 27-га лістапада гэткія малебны служыліся ў лягэры Остэргофэн у праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. Праваслаўны сьвятар Др. М. Сьцяпанаў і каталіцкі ксёндз М. Маскалік прысутнічалі адзін у аднаго на малебнах. Гэта было сапраўды экумэнічнае маленьне за Беларусь. Вось-жа на беларускай каталіцкай службе, у нямецкім касьцёле і прагучаў першы раз гімн «Магутны Божа», калі прысутныя беларусы, як каталікі, гэтак і праваслаўныя, у дружным хоры ўзьнесьлі свае малітвы.

Помніцца, прыйшла я на службу крыху пазьней і стаяла з-заду царквы сама, адна. Мама сьпявала ў хоры. Хор сьпяваў цудоўна. Сп. Равенскі заўсёды вымагаў ад сваіх харыстых пэрфэкцыі. «Магутны Божа» зрабіў на мяне такое глыбокае ўражаньне, што я не магла стрымаць сьлёзы, хоць і сорамна было плакаць, бо стаяла я адна, нікога зь беларусаў паблізу ня было — усе стаялі наперадзе. Ня было з кім і абмяняцца першымі ўражаньнямі. Але гэта мамэнт, калі я ўпяршыню пачула «Магутны Божа» назаўсёды застанецца ў маёй памяці. І колькі-б разоў пасьля гэтага я ня чула нашую малітву — кожны раз у мяне на вачох сьлёзы.

Пачуцьці гэтыя ўсплылі й наведваючы маленькі гарадок Баварыі, дзе некалі была дзейная частка беларускае дыяспары, і дзе паўстаў гэты шэдэўр нашай рэлігійна-нацыянальнай музыкі.

**КНІГА НА ЧАСЕ**

***BYELORUSSIAN STATEHOOD***

***comp. by Vitaut and Zora Kipel***

Кнігу можна набыць у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва.

У сувязі з абвешчаньнем незалежнасьці БССР, на захадзе ўзрасла зацікаўленьне дзяржаўнасьцю Беларусі дасавецкае пары. У названай кнізе якраз даецца грунтоўны агляд беларускае гістарычнае дзяржаўнасьці, асабліва ў артыкуле д-ра Яна Запрудніка, ды працы прафэсара Мітрафана Даўнара-Запольскага. Наагул-жа кніга «Беларуская Дзяржаўнасьць» дае інфармацыю і адказы на шмат якія запытаньні заходніх журналістаў. Кошт кнігі 25.00 ам. дал., а чэкі патрэбна слаць на:

BINiM
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

## ЦІКАВАЯ ПЕРАПІСКА

Дарагі спадар Пятро, я ад Вас дастаў пасылку — 95 беларускіх малітоўнікаў. Хаця Вы нічога не напісалі, я дадумаўся, што іх трэба раздаць беларусам, як папярэднія.

Да нас прыехалі беларускія дзеці зь Менску і ваколіц на тры тыдні на адпачынак па Чарнобылі. Я ім ўсе малітоўнікі раздаў — можа гэта дапаможа ў іх беларускім і рэлігійным выхаваньні. Якая радасьць у дзяцей была на твары, калі даставалі задарма па адным, а некаторыя хацелі й два. Казаў я, што гэта з Амэрыкі перасалаў мне беларускі амэрыканец Пётра Кажура і прасіў раздаць беларускім дзецям. Дзеці былі ад 4-ай да 8-ай клясы. Цяпер у нас у Бельску хто хоча, то можна узяць да сябе на 2-3 тыдні дзяцей з Чарнобыльскай зоны. Шмат нашых людзей зь Бельску й ваколіцаў бяруць дзяцей на адпачынак.

---

**Алесь Васілеўскі**

## ПРАЯВЫ НІГІЛІЗМУ — ПРАЯВЫ БЯСКУЛЬТУР'Я

«Мала дзе на сьвеце можна сустрэць такі нацыянальны, скажам, аўтанігілізм, як на Беларусі, такую непавагу да саміх сябе, такое занядбаньне ўласнай годнасьці. Ды гэта ня віна, а бяда Беларусаў» — гэтую цытату мы ўзялі з артыкулу Міколы Крукоўскага пад загалоўкам «Сувэрэнітэт і культура» зьмешчанага ў пятым сёлетнім нумары «Мастацтва Беларусі». Гэтым артыкулам, з аўтарскімі высновамі і аналізамі якога нельга не згадзіцца, адчыняецца травеньскі нумар часопісу, а канчаецца нумар рэцэньзіяй музыказнаўцы Падбярэзкага на кнігу «Праз рок-прызму» аўтарства Мартыненкі і Мяльгуя, што выйшла напрыканцы 1989 году ў Нью-Ёрку ў выдавецтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Матар'ялы Міколы Крукоўскага — аб нацыянальным нігілізьме, аб ягоных сёньняшніх праявах ды прычынах, што выклікалі гэтую зьяву. Рэцэньзія-ж Падбярэзкага — чыстай вады ілюстрацыя гэтага нацыянальнага нігілізму. Мікола Крукоўскі асуджае тую нацыю, якая не паважае сябе, працягвае занядбоўваць сваю культуру, свае традыцыі, ды радуецца, калі нацыя адшуквае свае карані, свае нацыянальна-культурныя фрагмэнты, праяўляе інтарэс да сваёй мінуўшчыны. «Імкненьне да адраджэньня беларускай культуры праз аднову нацыянальнага самаўсьведамленьня і самапавагі ні ў якім разе не нацыяналізм — піша ў сваім артыкуле Крукоўскі. Гэта — працягвае аўтар — натуральнае жаданьне народу заняць сваё законнае месца сярод сувэрэнных народаў сьвету, што складаюць адзінае чалавецтва.» Імкненьне да адраджэньня, — піша Мікола Крукоўскі ў часапісе «Мастацтва Беларусі», трэба толькі вітаць.

Кніга Мартыненкі і Мяльгуя «Праз рок-прызму», не знайшоўшы выдавецтва ў Беларусі і ў Савецкім Саюзе, выйшла ў Нью-Ёрку ў выдавецтве «Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, задоўга да прыняцьця Беларускай ССР «Закону аб сувэрэнітэце». Сувэрэнітэт рэспублікі, — піша Крукоўскі, павінен меці падмурак беларускай культуры ва ўсім аб'ёме яе мінулага й сучаснага. Толькі тады сувэрэнітэт набудзе запраўдную сілу й значнасьць. Бяз нацыянальные культуры — адзначае Мікола Крукоўскі — сувэрэнітэт застанецца фармальнай дэклярацыяй на паперы, ня больш. Думаецца, ня трэба нагадваць зь якой упартасьцяй партакратыя ў рэспубліцы змагалася супраць прыняцьця закону аб сувэрэнітэце, дый нават прыняўшы яго пад ціскам рэспубліканскіх дэмакратычных плыняў у Вярхоўным Савеце БССР ды пад уплывам таго, што рабілася у суседніх рэспубліках, як партапарат намагаецца трымаць яго як фармальнасьць на паперы. Але хоць перабудова і ў крызісе, хоць Вандэя і не здаецца, дэмакратычныя рэформы закранулі і Беларусь, дэклярацыя сувэрэнітэту з паперы пакрысе адшуквае сабе месца і ў практыцы.

Кніга Мартыненкі і Мяльгуя «Праз рок-прызму», унікальная наагул кніга ў музычным жыцьці рок-музыкі ў Савецкім Саюзе, таксама, думаецца была задуманая аўтарамі, каб спрыяць, папулярызаваць нацыянальную музычную культуру. І трэба толькі цешыцца з тэй працы, якую прарабілі Мартыненка і Мяльгуй працуючы над кнігай. І, думаецца, калі-б больш было гэткіх адраджэнцаў у беларускай культуры, як гэтыя журналісты, за рэальны сувэрэнітэт рэспублікі турбувацца не давялося-б.

Для музыказнаўцы Падбярэзкага кніга «Праз рок-прызму» — гэта архаізм, бачыце, складзеная яна з матар'ялаў і інтэрвію, якія былі надрукаваны ў рэспубліканскім пэрыядычным друку колькі гадоў таму. А пэрыёдыка, на думку Падбярэзкага, жыве нядоўга. Але-ж з матар'ялаў пэрыядычнага друку складаюцца зборы працаў усіх літаратараў! Дарэчы, і клясыкаў марксызму-ленінізму таксама!

Што новага маглі сказаць Мартыненка і Мяльгуй сваёй кнігай «Праз рок-прызму?» — пытаецца Падбярэзкі. І адказвае — нічога! Калі-б з падобнымі творчымі меркамі падыходзілі крытыкі да творчасьці савецкіх літаратараў, наўрад ці штосьці засталося-б ад іхнае спадчыны. Але ня ў гэтым рэч. Аўтары кнігі «Праз рок-прызму» і ня ставілі перад сабою заданьне сказаць штосьці новае. Хоць на самой рэчы, новае ў гэтай кнізе — усё. Першае друкаванае слова аб нацыянальнай рок-музыцы, першыя асэнсаваныя ўражаньні, тэарытычны аналіз. Іншая рэч як аўтары распара́дзіліся з падачай матар'ялу, з хранілёгіяй музычных гуртоў і падзеяў. Хоць да стылю кнігі Мартыненкі і Мяльгуя Падбярэзкі мае вялікія засьцярогі, як відаць зь ягонае рэцэнзіі ў часапісе «Мастацтва Беларусі», але, думаецца, ня гэта галоўная прычына ндобразычлівага стаўленьня музыказнаўцы Падбярэзкага да заакіянскага выданьня кнігі «Праз рок-прызму». Прычына гэтая палягае ў нацыянальным нігілізьме аўтара рэцэньзіі. Нігілізьме, якога ўжо ня бачыць ані сам аўтар рэцэньзіі Падбярэзкі, ані часапіс «Мастацтва Беларусі». Надрукаваўшы рэцэньзію Падбярэзкага, часапіс на добры лад павінен быў-бы даць сваю ацэну унікальнаму выданьню «Праз рок-прызму», у якім чытач можа знайсьці шмат інфармацыі, як аб беларускіх рок-гуртках, гэтак і папулярных заходніх.



Беларускае грамадзтва г. Чыкага й сям'я дзеляцца сумнай весткай, што 25-га жніўня 1991 году на 81-ым годзе жыцьця памёр

**СЬВ.†ПАМ.
ВАЦЛАЎ ПАНУЦЭВІЧ**

Шыроказнаны Беларускі грамадзка-палітычны й рэлігійны дзеяч, аўтар шматлікіх кнігаў і працаў зь гісторыі й этнаграфіі Беларусі.

**Сям'я і сябры**

**СЬВ.†ПАМ.
ДР. БАЛЯСЛАЎ ГРАБІНСКІ**

нар. 3-га жніўня 1899 г. у в. Урачыншчыне на Беласточчыне, пам. 20-га жніўня 1991 г. у Лонгвуд, у Флярыдзе.

У асобе д-ра Б. Грабінскага адыйшоў у вечнасьць адзін з пачынальнікаў Беларускага Адраджэньня; былы сябра нелегальнага гуртка Гарадзенскай гімназіі адзін з выдатнейшых беларускіх дзеячоў Заходняй Беларусі: былы старшыня Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, былы старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Заходняй Беларусі ды сябра шмат якіх іншых беларускіх арганізацыяў на Бацькаўшчыне і на эміграцыі.

**Управы: БАЗА, БІНІМ і Рады БНР.**

## «ЁЙ СЬНЯЦЦА СНЫ АБ БЕЛАРУСІ...»



Нажаль, мне ніколі ня прыходзілася сустрэцца зь ёю, пагутарыць, распытацца... як яно тады было... Але-ж са сьмерцю чалавека не памірае галоўны сэнс ягонага жыцьця — дабро; зярняты якога ён пасеяў астаюцца ў сэрцах тых, хто гэтыя зярняты з удзячнасьцю прыняў. Потым яны, ў сваю чаргу, пасеюць свае зярняты дабразычнасьці й міласэрдзя і памяць аб гэтых людзях жыве...

Прайшоў год ад дня сьмерці сьв. памяці Клаўдзіі Каляды. Не забываюць яе людзі і, калі пачынаюць гаварыць пра яе, вочы іх прыгажэюць, цяплеюць і нешта робіцца ў іхніх душах. Адбіваюцца ейныя добрыя справы ў вачох людзей. Шкада толькі, што можа не змаглі яны выказаць нейкія цёплыя словы яшчэ пры жыцьці. Жыла й жыла сабе добрая душа побач — і нібы нічога асаблівага. А калі памерла, разумеем каго страцілі.

«Яна ня была ні настаўніцаю, ні навукоўцам, ні доктарам, але для нас усіх была як маці й парадніла ўсіх сірот, як я» — піша мне спадарыня Юзя Найдзюк (калі яна даведалася, што я пішу артыкул пра сп-ню Клаўдзію, то прыслала мне свае ўспаміны, за што я вельмі ўдзячная). Далей Юзя працягвае: «Яна цікавілася моладзьдзю, іх працай, скаўтынгам, навукай ў гімназіі імя Янкі Купалы, царквой, і ўсім дапамагала, як магла. Тады, у Нямеччыне, у лягеры нам было вельмі цяжка. А спадарыня Клава ўмела прыгожа шыць, а гэта значыць, зь нічога, са старых трантаў нешта артыстычна скласьці, дадаць беларускай кметлівасьці... атрымлівалася вельмі прыгожа. Яна ўмела яшчэ смачна прыгатаваць беларускія патравы і гасьцінна частавала ўсіх, хто быў побач.

Не хацелі беларускія жанчыны страціць свайго твару, сваёй спадчыны там у лягэры, задумалі наладзіць выставу беларускіх рэчаў. І вось спадарыня Клаўдзія, Зіна Станкевіч ды Яня Каханоўская хадзілі ад бараку да бараку й прасілі ў нашых суродзічаў беларускіх экспанатаў: вышыванак, паясоў, ручнікоў, настольнікаў, дзяружак... І яны наладзілі прыгожую выставу, хоць і на чужыне... Хоць і ў цяжкіх умовах.»

Можа, калі людзям цяжка, калі яны бедныя, дык тады больш дружна жывецца? І дапамагаюць адзін другому больш. А дапамагаючы адзін другому, мы дапамагаем такім чынам зрушыць у нашых сэрцах нешта, і творым адзін ад аднаго любоў. А любоў, — як сказаў Апостал Пётра, — ёсьць надпрыродная энэргія, поўная магутнай сілы, якая творыць у нас новае, Боскае жыцьцё...

І я падумала, можа тое сьвятло, тая любоў, якая лілася з душы Клаўдзіі, калісьці засьвяціла яе маці, сьв. памяці Вольга Жарыч, пра якую так прыгожа напісаў у «Беларусе» яе ўнук Юрка Каляда. «Мне давялося напісаць пра Бабку і гэтым зь людзьмі падзяліцца. Мы разьвіталіся з найвялікшым дарам — жыцьцём чалавечым, якое яна праводзіла ў працы, творачы дабро, вялікае й прыгожае. Бабка была адной маленькай кропелькай у вялікім нясупынным патоку беларускіх пакаленьняў... Лёс ейны фармаваў яе характар.»

Так, сапраўды, лёс чалавека фармуе, але й характар фармуе лёс! І таму гэтыя жанчыны не загубілі свае годнасьці тут, на чужыне — ня згубілі сваёй шчырасьці, дабразычнасьці, што перадалася ім ад продкаў, ад самога духу народнага, і несьлі гэтыя скарбы ў сьвет.

«Пішэце! Пішэце пра яе!» — казалі мне наперабой яе сяброўкі: сп-ні Вольга Стрэчань, Надзея Каваленка, Ульляна Палонская, Марыя Гумен, Вера Каваленка, а таксама Тацьцяна Кананчук.

Шмат прыгожага расказалі яны мне пра спадарыню Клаўдзію: «Больш за 30 гадоў працавала яна на беларускай ніве, тут за мяжой! І ўсё рупілася, каб добра атрымалася ўсё тое, да чаго дакраналіся ейныя рукі. Ніколі сябе ня выпучвала — «Каб разам». Была добрая маці, добрая сяброўка, любіла ўнукаў.

Была вельмі веруючая. Чысьціла ў царкве, вышывала, шыла адзеньне для епіскапаў; гатавала, а потым прадавала абеды, а грошы, якія атрымлівалі, аддавалі у царкву, альбо на газэту «Беларус». Працавалі ўсе разам, адзін аднаго падтрымлівалі. Былі й сумныя й цяжкія часіны, але неяк-жа перадольвалі».

«Я дзяцінства мала бачыла, — расказвае дачка спадарыні Клаўдзіі, Іра Каляда-Сьмірнова — мама заўсёды была занятая. Цяжка працавала на Навагрудчыне. Мела краму. Тата памёр перад тым, як я радзілася. Сухоты. Яна мела малачарню, дзе выраблялі сыры. Прыйшлі камуністы і ўсё забралі, але ў Сібір ня выслалі — людзі не далі. Яна дапамагала калісьці ім, шкадавала іх, дзялілася сваімі няхітрымі скарбамі. У Нямеччыне зноў працавала цяжка. Яе і некалькі другіх жанчын-беларусак прымусілі ставіць тэлефонныя слупы. Гэта была цяжкая не жаночая работа, але-ж якіх беларусак напалохаеш цяжкасьцямі?.. А я была з бабуляй. Гаварылі па-беларуску.

Бамбілі... Страшна было, і людзі, няпамятаючы сябе, ляцелі ў схoвішчы... І мы ляцелі. Мне тады было 5-6 гадоў. Я раптам убачыла прыгожыя кветкі ды пачала іх зьбіраць і... згубілася. А людзі бягуць і бягуць. Я разгубілася і крычу «Мама! Мама!» На мяне ніхто не зьвярнуў увагі. Я, здаецца, спужалася, але хтосьці ўсё-ж падабраў мяне, пазнаў і прывёў да мамы! Памятую яе рукі, якія пяшчотна абдымалі мяне, памятую яе прыгожыя, поўныя сьлёз, вочы... Тады было шчасьце. Тады была радасьць, мама нібы сьвяцілася.

Яшчэ памятаю, як у Нямеччыне мама, бабуля і я кудысьці ад'язджалі. Людзей было шмат каля цягніка і мы ніяк не маглі туды трапіць. Але так сталася, што натоўп падняў маму і яна першая апынулася ў цягніку, а мы засталіся з бабуляй на пэроне... Мама паехала... Мы ня ведалі што рабіць. Усю ноч праседзелі на нейкіх сваіх клунках. І раптам, пад раніцу бачым — ідзе наша мама з валізкамі па шпалах! Адна! А час быў тады ліхі, шмат забойстваў, марадзёрства, рабункаў. А яна ішла... Яна ведала, што яе дачушка й мама патрабуюць яе дапамогі, патрабуюць яе прысутнасьці... Яна была добрая маці і добрая дачка. Мы тады плакалі, абдымаліся... Ізноў была радасьць!»

Шмат радасьці прынесла гэтая жанчына людзям: каго абагрэе, каму параду добрую дасьць, а каму й выкажа свой пагляд, калі штосьці ня так.

Вось як піша пра гэта Юзя Найдзюк: «Яна цікавілася беларускім жыцьцём у другіх гарадох ЗША. А бывала, час браў сваё, і мы, закапаўшыся ў сваіх асабістых справах, мала ўвагі аддавалі беларускім справам, тады спадарыня Клаўдзія крычэла ў тэлефонную трубку: 'О, Божачка! Дык вы-ж гультаі! Вы нічога ня робіце! А хто гэта зробіць за вас! Мы-ж — беларусы!..»

Кажуць у яе заўсёды былі сумныя вочы, нават, калі ўсьміхалася, у вачох быў смутак. Можа гэта было таму, што ўвесь цяжар свайго нялёгкага жыцьця яна вынесла на сваіх плячах і на скрыжаваньні ліхіх гадзінаў ніхто ня даў ёй моцнай падтрымкі, яна абапіралася толькі на сябе. Яна пераняла свой крыж ад далёкіх продкаў і несла яго з гордасьцю й цярпеньнем.

Сьветлая памяць аб спадарыні Клаўдзіі Калядзе застанецца ў сэрцах тых, каму яна пакінула ў спадчыну сваю дабрыню. І няхай ніколі ня згубіцца сувязь пакаленьняў, няхай нашчадкі нашыя, моладзь наша нясе далей сьвятло тых добрых спраў і братняй згоды, якія ідуць з глыбіні вякоў.

А спадарыні Клаўдзіі Калядзе — няхай «Сьняцца сны аб Беларусі» і вечная ёй памяць! **Вацлава Вярбоўская**

### КНІГУ МОЖНА НАБЫЦЬ

Новы раман беларускага пісьменьніка на эміграцыі Кастуся Акулы «ЗА ВОЛЮ», што выйшаў з друку ў Канадзе, можна купіць у выдавецтве часапісу «Зважай»

Кошт кнігі зь перасылкай 21.50 ам. даляр

ZVAZAJ
57 Riverdale Ave.
Toronto, Ont. M4R IC2
Canada

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: У. Бакуновіч, А. Міцкевіч, сп-ня Н. Кудасава, В. Рамук, С. Карніловіч, Я. Арцюх, К. Верабей, М. Прускі, А. Лашук.

## СЬВ. ПАМЯЦІ ПАЎЛА МЯТЛЫ
## 12.VI.1921 — 15.VII.1991

Павал Мятла нарадзіўся ў сялянскай сям'і недалёка ад Полацку ў вёсцы Дзісьне, Заходняя Беларусь. У Дзісьне Павал скончыў пачатковую школу. У 1943 годзе быў сасланы на працу ў Нямеччыну. Пасьля вайны пераехаў у сярэднюю Ангельшчыну. Належаў да ЗБВБ і як мог ахвярна падтрымоўваў беларускае нацыянальнае жыцьцё й праваслаўную царкву. Яго жаданьнем было, каб быў пахаваны беларускім праваслаўным сьвятаром, аднак пасьля сьмерці жонка Ірэна, якая ёсьць полькай, пахавала яго ў абрадзе каталіцкім. Вялікі жаль і спачуваньне выказваюць ўсе ягоныя сябры з ваколіц Бірмінгам і Вольвэргамтон.

**М. Баяроўскі**

### СПРАСТАВАНЬНЕ

У мінулым, 381-ым нумары «Беларуса» за ліпень-жнівень 1991 г. заўважана прыкрая памылка. У артыкуле «Успаміны пра бацьку» аўтар памылкова пададзены — Марыя Міцкевіч. Трэба чытаць ***Мікалай Міцкевіч.*** Просім выбачэньня у аўтара.

**Рэдакцыя**

## НА ВЕДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча*

| | |
|---|---|
| Л. Трусэвіч | ам. д. 100 |
| В. Русак | 50 |
| О. Грыцук | 40 |
| В. Навіцкі | 35 |
| Л. Стагановіч | 30 |
| Л. Літаровіч | 30 |
| С. Дубоўскі | 30 |
| М. Сіцько | 30 |
| А. Ауе | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| В. Дубяга | 25 |
| А. Губэрт | 25 |
| а. Н. А. Радэнковіч | 25 |
| Г. Агоніс | 25 |
| Ю. Наумчык | 25 |
| Д. Дашкевіч | 25 |
| а. К. Стар | 25 |
| М. Прускі | 25 |
| М. Русак | 25 |
| В. Мельяновіч | 25 |
| Я. Пятроўскі | 25 |
| А. Шурак | 25 |
| М. Ханяўка | 25 |
| Др. Б. Рагуля | 25 |
| А. Кучура | 25 |
| Г. Майсевіч | 25 |
| Ю. Азарка | 25 |
| А. Нестар | 25 |
| М. Казьлякоўскі | 25 |
| Усяго | 780.00 |

*Ахвяры на ведавецкі Фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва*

| | |
|---|---|
| С. Нарушэвіч | ам. дал. 200 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| У. Ракуць | 50 |

*Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўнікам шчыры дзякуй!*

**Адміністрацыя «Беларус»**